**№ 108 (460)**

Аўторак, 16 чэрвеня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.18 | 21.41 |
| Магілёў | 4.26 | 21.32 |
| Гомель | 4.32 | 21.20 |
| Мінск | 4.36 | 21.43 |
| Гродна | 4.53 | 21.56 |
| Брэст | 5.03 | 21.48 |

*Поўня 10 чэрвеня.*



**На злобу дня**

## Сермяжная правда

*о десяти сортах вареной колбасы и шести наименованиях жирного сыра улучшенного качества для пропитания простого народа*

**До сих пор Александр Лукашенко в интересах своих избирателей неутомимым языком "откручивал" цены на продукты только назад.**

**В реальности цены на каждодневный хлеб насущный все равно упорно ползли и ползут вверх...**

**Наконец, обозрев мясные прилавки и продукцию молокозавода, президент заявил: "Говорить о повышении цены можно..."**

**Значит ли это, что с разрешения главы государства теперь цены на хлеб, молоко и мясо будут расти еще стремительнее и ощутимее, чем раньше?**

**Взгляд**

## Удел пенсионеров и других малообеспеченных граждан — есть лишь "кровянку"

Не так давно глава государства лично изучал вопросы колбасного производства в столице. Продовольственные дела на Беларуси, видимо, совсем неважнецкие, если на столь высоком уровне занимаются такой элементарной в общем-то проблемой, как мясной фарш. Но речь не столько о степени важности проблемы, которой занимается президент, а о том, что он, я думаю, не знает условий жизни народа Беларуси.

Из истории мы помним о "потемкинских" деревнях. Сегодня они повторились в новой столице Казахстана. Фасады "хрущевок" на улицах, по которым проезжает казахский президент, покрыли специальными щитами, изображающими современный дизайн. Стены, выходящие во двор, и интерьер квартир не менялись — там глава государства не бывает.

Аналогично сделали и в Минске. Улицы на пути белорусского президента от дачи в Дроздах до резиденции заасфальтированы, на тротуары уложена плитка, смонтированы новые светильники. Но та же улица Энгельса сразу же за парадным подъездом, где не ступает нога главы государства, по своему внешнему виду не отличается от "авеню" провинциального райцентра — сплошные ухабы. Правда, на днях ее перегородили бетонными блоками. В связи с переселением послов из Дроздов в дом Климова улица Энгельса приобретает статус "дипломатической" магистрали. Но опять-таки, ремонтируют ее не для жителей столицы.

Но помимо "потемкинских" деревень и улиц бывают и "потемкинские" колбасы. Президент, глядя в телекамеру, искренне говорил о показанных ему нескольких сортах колбас по цене 80 тысяч за килограмм для малообеспеченных граждан, и по 140 тысяч — для высокооплачиваемых.

А ведь не на Луне живет президент. В магазинах, расположенных на пути движения главы государства (проспект Машерова — улица Ленина — проспект Скорины) по цене до 80 тысяч можно купить только кровяную колбасу. Есть еще, правда, куриная, производства США, которую сами американцы не едят.

Получается, что именно такую колбасную продукцию, по мнению главы государства, должны потреблять белорусские пенсионеры и другие малообеспеченные граждане страны.

Интересно, а сам президент какую колбасу ест?

**Валерий ЩУКИН.**

## Прадстаўнікі вядучых фракцый бундэстага сустрэліся ў Мінску з кіраўніком "ценявога" ўрада Беларусі

Дэпутаты бундэстага, якія знаходзяцца з візітам у Мінску, сустрэліся са старшынёй Нацыянальнага выканаўчага камітэта ("ценявога" ўрада Беларусі) Генадзем Карпенкам і намеснікам старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатолем Лябедзькам.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры АГП, падчас паўтарагадзіннай сустрэчы абмяркоўвалася шырокае кола пытанняў. Нямецкія парламентарыі, якія прадстаўляюць вядучыя фракцыі бундэстага, выказалі гатоўнасць праявіць салідарнасць з дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэем Клімавым і Уладзімірам Кудзінавым, адзін з якіх знаходзіцца ў следчым ізалятары, а другі — у калоніі строгага рэжыму. Быў падрыхтаваны тэкст звароту нямецкіх парламентарыяў да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь з прапановай вызваліць усіх палітычных зняволеных, уключаючы дэпутатаў легітымнага Вярхоўнага Савета.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

## З ганаровым званнем!

Генеральнаму дырэктару вытворчага аб'яднання "БелАЗ" — дырэктару Беларускага аўтамабільнага завода **Марыеву Паўлу Лук'янавічу** ўказам прэзідэнта краіны прысвоена ганаровае званне "Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь". Гэтага ганаровага звання кіраўнік беларускага аўтагіганта ўдастоены за шматгадовую працу і вялікі асабісты ўклад у развіцце аўтамабілебудавання рэспублікі.

* * *

За вялікі асабісты ўклад у развіцце юрыдычнай навукі, падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў і навуковых кадраў прафесару кафедры крыміналістыкі Акадэміі МУС **Мікалаю Порубаву** прысвоена ганаровае званне "Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь". Указ аб гэтым прыняў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

* * *

Ганаровае званне "Заслужаны рацыяналізатар Рэспублікі Беларусь", згодна з указам кіраўніка дзяржавы, прысвоена галоўнаму інжынеру Гомельскага вагонарамонтнага завода імя М.І.Калініна **Міхаілу Цуканаву**. Ён удастоены яго за распрацоўку і выкарыстанне ў вагонарамонтнай вытворчасці высокаэфектыўных рацыяналізатарскіх прапаноў.

**БелТА.**

**Скандалы**

## Как в капле воды

Визит в Республику Беларусь официальной делегации Союзной Скупщины Союзной Республики Югославия во главе с председателем Веча Республик Союзной Скупщины Срджой Божовичем был обставлен по самым высшим критериям. И это понятно. Лукашенковскую Беларусь крайне редко балуют визитами высокие государственные мужи. И потому белорусская сторона старалась сделать все, чтобы гости остались довольны пребыванием в Минске. Их принимали президент Лукашенко, премьер-министр Линг, естественно, и главы так называемого Национального собрания.

Однако уже на второй день визита югославская делегация вынуждена была заявить белорусским властям протест. Дело в том, что в этот день транспорт, который обслуживал делегацию, остался без милицейских машин сопровождения. А гостям нужно было возложить венок к обелиску на площади Победы, побывать на Минском тракторном заводе, акционерном обществе "Атлант", Белорусском концерне по материальным ресурсам. Кто отдал команду снять сопровождение, установить не представляется возможным. Совет республики ссылается на МИД, а МИД в свою очередь — на Администрацию президента, Администрация президента — на Совет безопасности и т.д. и т.д. Но факт остается фактом — якобы "наверху" кто-то решил, что с машинами сопровождения по Минску должны ездить только те гости, что рангом не ниже президента или премьера.

После бурного протеста милицейскую машину югославам все же вернули. Ибо как объяснить людям, которые привыкли к тому, что во всем мире с одинаковым уважением относятся к руководству не только исполнительной, но и законодательной власти, что в Беларуси законодатели как бы люди второго сорта. Ведь тогда пришлось бы объяснять, как и почему было сформировано так называемое Национальное собрание, введены две палаты и т.д. и т.п.

В этом эпизоде как в капле воды отразилось отношение белорусского президента к другим ветвям власти. Как и в случае с дипломатическим городком "Дрозды", иностранцам и здесь показали, кто у нас самый главный.

**Владимир ГЛОД.**

**Стоп-кадр**

*Новыя беларусы.*

## У Крупскім раёне — аднаўленчыя работы

Мінскую вобласць стыхійныя бедствы без сваёй "увагі" не пакідаюць. У першы дзень чэрвеня — водная стыхія ў Валожыне, а 9 чэрвеня — ураган у Крупскім раёне.

Нагадаем, што ў гэты дзень моцны вецер, смерч, лівень і град абрушыліся на вёску Ротань. Былі поўнасцю разбураны чатыры вытворчыя аб'екты, на аднаўленне якіх запатрабуецца каля 2,5 мільярда рублёў. Рамонт неабходны і большай частцы калгасных памяшканняў, у тым ліку і магазіну.

Як паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны Крупскага раёна, удару стыхіі падверглісся таксама 42 жылыя дамы. Асабліва многа бяды нарабіў град, велічыня якога дасягала курынага яйка. Цяпер мясцовыя ўлады дапамагаюць жыхарам перакрыць дах. Большая частка пашкоджаных дамоў была застрахавана, і кампанія "Белдзяржстрах" пачала ўжо выплату кампенсацый за ўрон, нанесены стыхіяй. Ураган часткова пашкодзіў, а сям-там і поўнасцю знішчыў пасевы на калгасных палях і на асабістых падвор'ях грамадзян. Так што разлічваць на багаты ўраджай не прыходзіцца.

**Аксана АСПІШЧАВА, БелТА.**

**У суседзяў**

## У пагоні за Амерыкай

Урад Літвы прыняў пастанову, якая дае магчымасць павялічыць максімальна дапушчальную скорасць руху на аўтастрадах са 110 да 130 кіламетраў у гадзіну. Да такога рашэння літоўскія ўлады прыйшлі пасля даследавання рэальнага становішча спраў на дарогах краіны.

Гэты крок урада мясцовыя журналісты назвалі спробай хоць у чымсьці абагнаць Амерыку.

## Мільянер не давярае літоўскім банкам

Неймаверна пашанцавала звычайнаму дзяржаўнаму служачаму з літоўскай глыбінкі. Купіўшы некалькі латарэйных білетаў у сельскім магазіне, ён выйграў 1005914 літаў — гэта больш чым 250000 долараў ЗША.

У мэтах бяспекі прозвішча шчаслівчыка трымаецца ў тайне. Аднак некаторыя журналісты ўжо дабраліся да яго і даведаліся, што той апасаецца захоўваць выйграныя грошы ў літоўскіх камерцыйных банках і будзе шукаць больш надзейныя спосабы іх укладання за мяжой.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС.**

## Заявление Политсовета Объединенной Гражданской партии

Мы, коллеги Андрея Климова по партии, обращаемся к белорусским властям с требованием уважать права человека, права депутата Верховного Совета и освободить Климова от незаконного содержания под стражей.

Мы знаем, что Андрей Климов, протестуя против произвола, творимого следственными органами, объявил голодовку.

В любом случае голодовка опасна для здоровья, а в тюремной камере — особенно. Депутат Климов пошел на эту крайнюю меру, чтобы привлечь внимание к своему делу и остановить беззаконие.

Его имя, его воля становятся символом нашей борьбы за права человека в родной Беларуси.

Все жители Беларуси сегодня стали заложниками воли одного человека. Такое положение мучительно для всех — и для нас, и для политзаключенных, и для "вершителя" судеб, и для тех, кто продвигал его к власти. Из-за его злой воли страдают конкретные люди, дети не видят отцов, жены разлучены с мужьями, родители — с сыновьями.

Только люди без чести и достоинства способны растоптать честь и достоинство других.

Мы требуем: прекратите произвол!

Свободу Андрею Климову!

**Нельзя молчать**

## В центре белорусской столицы "под охраной государства" находится антисемитский призыв

Читательница "Народной воли" Дора Фриндлянд позвонила в редакцию и с болью в голосе рассказала, что уже вторую неделю на доме №24 по переулку Козлова в Минске "красуется" призыв: "Бей жидов". Дора Самойловна назвалась представительницей национального меньшинства. Разговаривала она на чистом белорусском языке и лишь легкий акцент выдавал еврейское происхождение.

Представительница древнейшего народа с горечью спрашивала, почему должностные лица столько дней не принимают в соответствии с Конституцией меры к прекращению пропаганды национальной вражды? Бездействие властей особенно бросается в глаза на фоне непримиримой борьбы правоохранительных органов с патриотическим призывом "Жыве Беларусь!". Эти слова немедленно закрашиваются, а автора надписи штрафуют, отправляют под арест и даже в тюрьму, как Алексея Шидловского.

Написан антисемитский лозунг черной краской на здании, в котором расположен магазин "Обувь" акционерного предприятия "Элерант". В соседнем здании №26 находится почтовое отделение N 38 и кинотеатр "Смена". Руководство этих учреждений каждый день в упор не видит крамольную надпись около их рабочего места.

Не замечает и администрация сада-яслей №144 Минского электротехнического завода имени Козлова, расположенного рядом в доме №22б. Не ведают о призыве к избиению жидов на своей территории руководство и технические службы ЖЭС-44 Партизанского района, а также сама районная "вертикаль". И уж тем более даже не подозревают об этом государственные ведомства, чьи предприятия располагаются вокруг антисемитского призыва.

Ежедневно мимо этой надписи по пути в сад, в школу, в кино проходит подрастающее поколение. На работу, в магазин, на почту движется взрослый люд. Хорошо видны страшные слова и тем, кто пробегает по тропе здоровья на противоположной стороне переулка.

Возможно, стереть надпись и защитить тем самым белорусских евреев не позволяет прибитая к стене под призывом табличка со словами: "Геодезический пункт, охраняется государством". А вдруг призыв бить жидов и есть тот самый пункт, который охраняет белорусское государство? В таком случае за стирание надписи, охраняемой государством, можно угодить на несколько лет в тюрьму: ведь в самом деле никто не знает, что такое геодезический пункт.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**Не блытаць!**

## Партыя не новая, а адроджаная. У каторы раз...

27 траўня 1998 года Міністэрствам юстыцыі была зарэгістравана Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (БСДГ).

Газета "Народная воля" ў нумары за 4 чэрвеня 1998 г. з гэтай нагоды надрукавала адпаведнае кароценькае паведамленне БелаПАН. Мяркую, што чытачам будзе цікава ведаць больш падрабязную інфармацыю аб аднаўленай партыі. Як адзін з членаў аргкамітэта па стварэнні БСДГ я хацеў бы даць сапраўдную інфармацыю аб становішчы новай БСДГ.

Пасведчанне БСДГ выдадзена пад нумарам 42, і гэта азначае, што з моманту ўвядзення шматпартыйнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 42 партыі. Аднак Грамада на дадзены момант — 30-я існуючая партыя, а астатнія ўжо скончылі сваё існаванне.

Хаця БСГД толькі зарэгістравана, яна партыя не новая. Цяперашняя БСДГ, якую ўзначаліў Станіслаў Шушкевіч, — гэта адроджаная БСДГ, што была створана ў 1991 годзе на чале з Міхасём Ткачовым. Пасля яго заўчаснай смерці партыяй кіраваў Алег Трусаў, а затым Мікола Статкевіч. З 1997 года гэтая партыя прыпыніла сваё існаванне ў сувязі з утварэннем Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) на чале з М.Статкевічам.

Цяперашняе аднаўленне Грамады — не першае. Сваю гісторыю, хаця і пад іншай назвай, яна бярэ аж з 1903 года, з утварэння братамі Луцкевічамі Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады (БРГ). У 1905 годзе на з'ездзе БРГ у Мінску партыя атрымала новую назву — Беларуская Сацыялістычная Грамада. Праіснаваўшы да 1907 года, БСГ прыпыніла сваю дзейнасць да 1917 года, у якім яна адрадзілася, і існавала да 1918 года. БСДГ 1998 года — прамая спадкаемца сваіх папярэдніц: БРГ, БСГ і БСДГ (Ткачова).

Заўважу, што існуючая Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) не мае ніякіх адносін да той грамады, што была да яе — БСДГ, аб чым яна сама заявіла ў судзе Заводскага раёна: "...вместо БСДГ в начале 1997 года образовалась совершенно другая партия с другими учредителями. В суд Заводского района были направлены соответствующие бумаги, и судьи признали БСДП "Народная Грамада" не имеющей никакого отношения к БСДГ". (Газета "Имя" ад 28 мая 1998 г., стар. 6).

Цяпер аб другім артыкуле. Цытую: "На думку прэс-сакратара БСДП Леаніда Дзейкі, новую структуру пакуль нельга назваць партыяй, таму што, наколькі яму вядома, больш за палову членаў БСДГ знаходзіцца ў іншых палітычных партыях...". Вось так! Мінюст зарэгістраваў партыю БСДГ, а таварыш Л.Дзейка не зарэгістраваў!

Наконт членства ў БСДГ. Па-першае, у БСДГ на дадзены момант знаходзіцца не "палова членаў іншых партый", а недзе каля 50 чалавек (нагадаю: для рэгістрацыі патрэбна 500 чалавек), і не партый, а адной партыі — Беларускай нацыянальнай партыі (БНП). Ужо з паўгода таму БНП узяла курс на аб'яднанне з БСДГ, і на этапе пабудовы партыі шэраг членаў БНП прынялі ўдзел у гэтым працэсе як фізічныя асобы. Але пакуль БСДГ была не зарэгістравана, пра аб'яднанне гаварыць не выпадала. Пасля рэгістрацыі БСДГ, ужо 30 мая 1998 г., адбылося пасяджэнне Вышэйшай Рады БНП, на якім было вырашана склікаць у канцы чэрвеня з'езд БНП, дзе было б разгледжана пытанне аб аб'яднанні БНП з БСДГ.

І, нарэшце, апошняе. Зусім смешным выглядае ў згаданым артыкуле ў "НВ" спасылка Л.Дзейкі на статут БСДП (НГ), дзе сказана, што членам іх партыі забаронена знаходзіцца ў іншых партыях. Ну і што? Ваша права. А ў нашых партыях не забаронена. І гэта адзначана ў статутах БНП і БСДГ, зарэгістраваных у Мінюсце.

Такім чынам, зараз у Рэспубліцы Беларусь існуюць дзве сацыял-дэмакратычныя партыі — БСДГ і БСДП (НГ). БСДГ — гэта правая сацыял-дэмакратычная партыя. Яна працягвае традыцыі сацыял-дэмакратаў пачатку XX стагоддзя, ставіць сваёй мэтай стварэнне гуманнага дэмакратычнага грамадства на аснове шматукладнай эканомікі, ставіць сваёй задачай нацыянальнае адраджэнне і адраджэнне духоўнасці.

Пасля рэгістрацыі БСДГ пачаўся імклівы колькасны рост партыі. Нарэшце з'явілася магчымасць для ажыццяўлення шматлікіх праектаў партыі. Канешне, гаварыць аб канкрэтных выніках яшчэ рана. Будучыня пакажа.

**Анатоль АСТАПЕНКА, старшыня БНП, намеснік старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ.**



## По даных Асацыяцыі абароны правоў бацькоў, у Беларусі налічваецца больш за 23 тысячы "бацькоў-адзіночак"

21 чэрвеня ў Мінску ў парку імя Чалюскінцаў пройдзе міжнароднае свята — Дзень бацькі, сярод арганізатараў якога — кампанія "Стиморол", Асацыяцыя абароны правоў бацькоў Мінска і адміністрацыя парка.

Па даных Асацыяцыі абароны правоў бацькоў, сёння ў Беларусі налічваецца больш за 23 тысячы "бацькоў-адзіночак". Па словах прэзідэнта гэтай няўрадавай грамадскай арганізацыі інжынера-пілота Алега Бакуліна, асацыяцыя змагаецца за роўныя бацькоўскія правы бацькоў і мацярок, аказвае юрыдычную дапамогу, псіхолага-педагагічную і матэрыяльную падтрымку адзінокім бацькам, якія выхоўваюць дзяцей у няпоўных сем'ях. Дарэчы, матывам, які падштурхнуў А.Бакуліна ў 1991 годзе стварыць асацыяцыю, з'явілася асабістая трагедыя, звязаная са шлюбаразводным працэсам і перадачай яму дзяцей на выхаванне, якія зацягнуліся больш чым на чатыры гады. "Нягледзячы на тое, што дзеці хацелі жыць са мной, а маці не збіралася іх выхоўваць, суды традыцыйна былі на баку маці і мне з цяжкасцю ўдалося адстаяць свае правы", — сказаў прэзідэнт асацыяцыі.

Сёння ў рэспубліцы склалася трывалая судовая практыка парушэння правоў бацькоў і дзяцей пры скасаванні шлюбу, супраць якой і выступіла асацыяцыя. "Мы накіроўваем сваіх грамадскіх абаронцаў для ўдзелу ў складаных працэсах па абароне правоў бацькоў, якія любяць сваіх дзяцей і зацікаўленыя ў іх далейшым лёсе", — адзначыў А.Бакулін. Асацыяцыя прадстаўляе бацькоўскія інтарэсы бацькоў краіны на штогадовай міжнароднай канферэнцыі ў Празе "Бацькі — за правы дзяцей" і выдае аднайменны бюлетэнь.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

Погляд

# Калі расіяне і беларусы зліюцца ў адзіны народ, то навошта гэтаму адзінаму народу будуць два прэзідэнты?

Беларусы заўжды мелі роднасныя пачуцці да расіян. Ды і як ім іх не мець, калі на ўсход ад Беларусі размяшчаюцца... прасторы колішняга Вялікага княства Літоўскага — Бранская і Смаленская вобласці, жыхары якіх — этнічныя беларусы! Яны называюцца рускімі — расіянамі, але фактычна яны беларусы: у сельскай мясцовасці там гавораць па-беларуску, мабыць, лепш, чым у некаторых раёнах сённяшняй Беларусі. І што тут дзіўнага: там жа не праводзілася такая нахабная русіфікацыя, як тут.

Калі быў Савецкі Саюз, то раздзяленне этнічнай беларускай зямлі было чыста ўмоўным. Граніцы як такой не было. Калі ж развалiўся Савецкі Саюз, адбылося раздзяленне ўжо ў натуры. Гэта выклікала пратэст у беларусаў з Беларусі і ў беларусаў з Расіі, а таксама жаданне аб'яднацца ў адзіны народ.

Згодна з дамоўленасцямі з Масквой, мы ўжо ў Саюзе з Расіяй. І расіяне адчуваюць сябе на Беларусі, як дома. Вось толькі беларусы не адчуваюць (і наўрад ці будуць адчуваць) так сябе ў Расіі.

Усе дзяржаўныя дзеячы Беларусі, якія кіравалі дзяржавай раней і якія кіруюць ёю цяпер, з залежнай ад Расіі самасвядомасцю. Яны і ўявіць сабе не могуць Беларусь самастойнай, незалежнай. Яны па-іншаму і кіраваць не могуць, як толькі ў стане залежнасці ад Расіі. Такім чынам, з такім кіраўніцтвам лёс беларускага народа прадвызначаны — яму наканавана зліцца з расійскім народам.

Я не лічу, што гэта лепшы варыянт лёсу беларускага народа, але нават пры гэтым варыянце нельга паўтараць гістарычных памылак мінулага.

Расійская імперыя ў царскі перыяд уяўляла сабой адзіную дзяржаву, якая складалася з губерняў. Такая ж дзяржаўная структура засталася ў Расійскай імперыі пры захопе ўлады бальшавікамі. А гэтая недарэчная дзяржаўная структура, якая называлася Савецкім Саюзам, з'явілася ў выніку барацьбы за ўладу Ул.І.Леніна і І.В.Сталіна.

Калі Ленін адчуў, што пад яго сталі "падкапваць" і што небяспека ішла з боку генсека Сталіна, ён вырашыў аб'явіць вайну Сталіну. Ён абвінаваціў Сталіна ў вялікарускім шавінізме — адным з самых страшных грахоў для бальшавіка. Сталін жа, каб адвесці ад сябе падазрэнне, сам, па сваёй ініцыятыве, стаў састаўляць дэкларацыю аб утварэнні Саюза Рэспублік, у выніку якой утварыўся Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік з яго недарэчнай надбудовай — дзяржаўнай структурай у выглядзе Саюзнага Вярхоўнага Савета і Саюзнага Савета Міністраў.

Што дало стварэнне Савецкага Саюза народам Расійскай імперыі? Нічога дадатнага, акрамя лішніх мільёнаў рэпрэсіраваных: Сталін вельмі баяўся народна-вызваленчага руху ў рэспубліках і падазраваў кожнага разумнага і адукаванага грамадзяніна ў патрыятычных ці нацыяналістычных настроях.

Стварэнне Савецкага Саюза не прынесла народам свабоды. Акрамя таго, стварэнне Савецкага Саюза пасадзіла на плечы працоўных саюзных рэспублік цэлую армію лішніх едакоў з рэспубліканскіх дзяржаўных структур, якія нічога не маглі вырашыць без Масквы, але карміліся па поўнай праграме за кошт свайго народа.

А цяпер паразважаем, што дала дзяржаўнасць у складзе Савецкага Саюза канкрэтна беларускаму народу. Беларусь не магла праводзіць самастойную знешнюю і ўнутраную палітыку. Нават зямлёй Беларусі распараджалася Масква, не звяртаючы ўвагі на беларускі народ. Масква праводзіла рэпрэсіі сярод насельніцтва Беларусі, праводзіла мэтанакіраванае знішчэнне генафонду беларускай нацыі, таксама не звяртаючы ўвагі на беларускі народ, які павінен быць, як вядома, крыніцай дзяржаўнай улады на Беларусі. Адсюль вынік: дзяржаўнасць беларускага народа ў складзе Савецкага Саюза была фікцыяй, дзяржаўнасцю на паперы, не сапраўднай дзяржаўнасцю.

А цяпер паразважаем наконт стварэння новага Савецкага Саюза: ці патрэбен ён нам — грамадзянам Беларусі? Калі ўжо зліваца беларусам з расіянамі ў адзін народ, то не трэба нам гэтая недарэчная папяровая дзяржаўнасць!

Уявіце сабе невялікі валун — Беларусь і аграмадную скалу — Расію. Уявіце сабе яшчэ нейкую недарэчную надбудову, якая павінна апірацца адначасова і на валун, і на скалу. Больш недарэчнай канструкцыі і ўявіць сабе немагчыма!

Ды недарэчная нават сама ідэя вяртання Савецкага Саюза! Па-першае, у былым Савецкім Саюзе не было прэзідэнцкага праўлення. Дык што, адмяніць прэзідэнцкае праўленне ў Расіі і Беларусі? А ці згодзяцца з гэтым прэзідэнты Расіі і Беларусі? А па-другое, гэтая прапанова — кіраваць ССР (Саюзам суверэнных рэспублік) па чарзе — па сутнасці недарэчная. І сапраўды: ці ж згодзіцца кіраўнік магутнейшай дзяржавы на Еўраазіяцкім кантыненце, прытым ядзернай дзяржавы, падпарадкоўвацца кіраўніку невялікай дзяржавы хаця б на гадзіну (не гаворачы ўжо аб двух гадах)? Тым больш што гэтая невялікая дзяржава "з усімі сваімі вантробамі" залежная ад Расіі.

Не, калі ўжо зліваца нам, грамадзянам Беларусі, з расіянамі ў адзіны народ, то не трэба нам ніякай дзяржаўнасці: прасцей замураваць валун-Беларусь у скалу-Расію, каб быў адзіны маналіт.

Колькі сродкаў будзе зэканомлена, калі мы скароцім непатрэбную (калі мы будзем у складзе Расійскай імперыі) дзяржаўную структуру! Стануць непатрэбнымі ўсе атрыбуты дзяржаўнасці: гэта і прэзідэнт з яго адміністрацыяй і аховай, гэта і прэзідэнцкі фонд, гэта і рэспубліканскі парламент, які і цяпер непатрэбны, таму што ўся паўната ўлады — у руках прэзідэнта і ён кіруе з дапамогай указаў, гэта і рэспубліканскі ўрад — Савет міністраў, гэта і пасольствы і другія прадстаўніцтвы ў Беларусі і другіх дзяржавах. Усе гэтыя атрыбуты дзяржаўнасці — непатрэбныя ў выпадку залежнасці беларускага народа ад Расіі. Усё гэта прынясе такую аграмадную эканомію, што ўзровень жыцця ў грамадзян Беларусі, які цяпер значна ніжэйшы, чым у расіян, зраўняецца з узроўнем жыцця расіян, а магчыма, стане яшчэ вышэйшым. Праўда, на больш ўзровень жыцця, чым у расіян, нам, грамадзянам Беларусі, у выпадку залежнасці разлічваць не прыходзіцца, але з узроўнем жыцця расіян мы зраўняемся бясспрэчна.

Калі Беларусь пазбавіцца атрыбутаў дзяржаўнасці, непатрэбных у выпадку залежнасці, то на Беларусі можа бесперашкодна развівацца нацыянальна-патрыятычны рух. Цяпер, калі існуючы ў Беларусі кіруючы рэжым апіраецца на прарасійскі настроеныя слаі насельніцтва (як кажуць, на пятую калону Расійскай імперыі), нацыянальна-патрыятычны рух у загоне: закрываюць беларускія школы, за размову на беларускай мове ў грамадскіх месцах можна трапіць у пастарунак, можна трапіць у пастарунак і за дэманстрацыю беларускіх нацыянальных сімвалаў. Калі ж мы будзем пад Расіяй, без непатрэбных атрыбутаў дзяржаўнасці, то нацыянальна-патрыятычны рух у Беларусі не будзе выклікаць супраціўлення ў расійскіх улад. Тады беларусы, як адзін з многіх народаў Расійскай імперыі, бесперашкодна змогуць адкрываць беларускія школы, змогуць размаўляць у грамадскіх месцах на роднай мове, змогуць бесперашкодна дэманстраваць свае нацыянальныя сімвалы. Тады Мірону не спатрэбіцца ноччу вывешваць беларускі нацыянальны сцяг на заводскіх трубах ці на апорах высакавольтных ліній электраперадач. Ён можа тады свабодна дэманстраваць беларускі нацыянальны сцяг у любым месцы, нават у сябе дома.

Калі Беларусь зліецца ў адно цэлае з Расіяй, то тады Расія ўжо не зможа так падстаўляць Беларусь у якасці буфернай дзяржавы пад "стальное копье, бьющее с Запада" (згодна з выразам расійскага пісьменніка А.Праханава), як гэта яна рабіла і робіць цяпер, калі Беларусь — залежная, але асобная дзяржава. Калі ж Беларусь зліецца ў адно цэлае з Расіяй, "стальное копье, бьющее с Запада", будзе адзывацца болем ва ўсім дзяржаўным арганізме Расіі, як адзываецца болем парэзаны палец ва ўсім арганізме чалавека. Тады Расія не дазволіць, каб так бесперашкодна гулялі па плячах і галавах беларускіх грамадзян дубінкі міліцыянтаў. Расія тады будзе лічыць беларускіх грамадзян сваімі і будзе таксама турбавацца аб іх, як турбуецца аб рускаязычных грамадзянах Латвіі.

Атрыбуты дзяржаўнасці ў выпадку залежнасці — бессэнсоўнасць, таму што дзяржаўнасць і залежнасць — рэчы несумяшчальныя.

**Яўген ФІЛІПОВІЧ.**

## Міжнародная арганізацыя Article 19 выказвае заклапочанасць у сувязі з абмежаваннем свабоды слова ў Беларусі

Міжнародная арганізацыя Article 19 выказала заклапочанасць у сувязі з чарговымі абмежаваннямі свабоды слова ў Беларусі.

Арганізацыя лічыць, што канкрэтныя крокі ўрада рэспублікі ў галіне свабоды друку паказваюць, наколькі несур'ёзнымі былі заявы беларускай дэлегацыі на пасяджэнні Камісіі ААН па правах чалавека ў красавіку. Нагадаем, што тады афіцыйныя асобы рэспублікі сцвярджалі: змяненні ў закон аб друку накіраваны на прывядзенне яго ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі. Аднак канкрэтныя дзеянні ўлад гавораць аб зваротным. "Гэта яшчэ адзін абуральны ўдар па свабодзе слова ў Беларусі", — заявіў намеснік дырэктара арганізацыі Малькольм Смарт. — Урад дэманструе поўную нецярпімасць да крытыкі і пагарджанне прынцыпамі дэмакратычнага кантролю, што з'яўляецца сур'ёзным парушэннем яго міжнародных абавязацельстваў у галіне свабоды слова".

Article 19 б'е трывогу ў сувязі са змяненнямі і дапаўненнямі ў Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны кодэксы, а таксама Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях і ў шэраг законаў, у якіх ідзе гаворка аб абароне гонару і годнасці прэзідэнта. У адпаведнасці з законапраектам, адобраным Палатай прадстаўнікоў беларускага Нацыянальнага сходу 4 чэрвеня, падобныя дзеянні ў дачыненні да прэзідэнта як публічная знявага або паклёп, кваліфікуюцца як злачынства. Прычым за паклёп на прэзідэнта прадугледжваецца больш значнае, чым за паклёп у дачыненні да радавых грамадзян, пазбаўленне свабоды на тэрмін да чатырох гадоў, папраўчыя работы да двух гадоў або штраф. Турэмнае заключэнне можа быць нават больш працяглым у выпадку, калі дзеянне ўчынена паўторна або з выкарыстаннем друку, або іншых сродкаў масавай інфармацыі.

Прадугледжана таксама адміністрацыйная адказнасць за выкарыстанне ў грамадскіх месцах плакатаў, транспарантаў і іншых сродкаў, змест якіх прыніжае гонар і годнасць прэзідэнта, а таксама за распаўсюджванне ў СМІ звестак, што ганьбяць гонар і годнасць кіраўніка дзяржавы.

**Іван МІХАЙЛАЎ, БелаПАН.**

Крымінал

## Захоўвайце валюту ў банках

Скромны бухгалтар адной з Гомельскіх вышэйшых навучальных устаноў у адну ноч пазбавіўся больш як сямі тысяч долараў — укралі. Сумны лёс таксама напаткаў і начальніка сектара фінансаў, які працуе ў мясаперапрацоўчай прамысловасці вобласці. У яго злодзей украў 3500 тысяч долараў і вырабы з золата. Відаць, усе ж захоўваць валюту трэба ў дзяржаўных банках.

**Віктар КОТАЎ.**

## Колькасць цяжкіх злачынстваў не змяншаецца

*Больш за восем тысяч злачынстваў было зарэгістравана ў Мінску за першыя пяць месяцаў гэтага года, раскрыта каля шэсці тысяч.*

Паводле інфармацыі, атрыманай БелТА ў ГУУС Мінгарвыканкама, хоць у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года агульная колькасць злачынстваў зменшылася амаль на 7 працэнтаў, асаблівую трывогу выклікае рост цяжкіх злачынстваў. Яны склалі амаль палавіну з усіх учыненых. Галоўнай матывацыяй для правапарушэнняў па-ранейшаму з'яўляецца карыслівая накіраванасць. Сярод зарэгістраваных злачынстваў толькі на долю розных крадзяжоў прыпадае больш як сорак працэнтаў.

Адным з галоўных клопатаў сталічнай міліцыі застаюцца злачынствы супраць асобы. Больш учынена наўмысных забойстваў і замахаў на жыццё, цяжкіх цялесных пашкоджанняў, згвалтаванняў.

Кіраўніцтва сталічнай міліцыі адзначае, што захавалася тэндэнцыя да зніжэння колькасці кватэрных крадзяжоў і выкраданняў аўтатранспарту. Дзякуючы прынятым мерам стала больш спакойна ў грамадскіх месцах і на вуліцах горада. Спынена 1925 фактаў дробнага хуліганства і больш за чатыры тысячы дробных крадзяжоў.

## Фальшывымі бываюць не толькі долары

З пачатку 1998 года работнікі сталічнай міліцыі выявілі больш за дзве тысячы эканамічных злачынстваў, з якіх амаль палавіна — розныя крадзяжы.

Як паведамілі БелТА ў ГУУС Мінгарвыканкама, з агульнай колькасці эканамічных правапарушэнняў больш як трэць склалі так званыя "замаскіраваныя" крадзяжы, у тым ліку ў буйных і асабліва буйных памерах. Супрацоўнікі міліцыі правялі больш за 6 тысяч праверак аб'ектаў, якія рэалізуюць алкагольныя і тытунёвыя вырабы, у выніку якіх спынена 59 злачынстваў і 5 тысяч адміністрацыйных правапарушэнняў. У парушальнікаў было канфіскавана безакцызнага тавару на суму звыш трох мільярдаў рублёў.

Па-ранейшаму выклікае трывогу сітуацыя ў сферы валютных аперацый. За 5 месяцаў гэтага года ў Мінску зарэгістравана 376 выпадкаў збыту несапраўдных грашовых купюр. Сума фальшывак, выведзеных з абароту, склала: 21841 амерыканскі долар, 4500 дойчмарак, 1,6 мільёна расійскіх рублёў і 1,3 мільёна разліковых білетаў Нацбанка Беларусі.

**БелТА.**

## Без лекаў хоць лажыся і памірай

Праект прэзідэнцкага дэкрэта аб ліквідацыі недзяржаўных аптэк хоць не ўступіў у законную сілу, а ўжо сваім фактам з'яўлення на свет нанёс непапраўную шкоду забеспячэнню насельніцтва лекамі. На Віцебшчыне фактычна згарнулі сваю дзейнасць 70 камерцыйных аптэк і аптэчных кіёскаў, і адразу выявілася вострая няхватка многіх жыццёва важных лекаў. Больш таго, сем заводаў-вытворцаў лекаў краін СНД, Германіі, Эстоніі, Славакіі не толькі падалі ў суд на абласное аб'яднанне "Фармацыя" за даўгі па раней пастаўленых прэпаратах на суму 67 мільярдаў рублёў, але мяркуюць наогул зачыніць свае прадстаўніцтвы ў Беларусі і спыніць пастаўкі многіх жыццёва неабходных медыкаментаў для хворых.

Замежных партнёраў больш не прываблівае перспектыва супрацоўніцтва толькі з манапольнай дзяржаўнай структурай, якая можа са спазненнем прадставіць беларускія рублі, якія цяпер нават у Расіі і на Украіне ніхто за паўнацэнную валюту не лічыць. Сітуацыя настолькі абвастрылася, што, каб не дапусціць гібелі хворых у віцебскіх бальніцах з-за адсутнасці неабходных лекаў, гэтым быў вымушаны асабіста заняцца сам старшыня аблвыканкама. Калі становішча спраў карэнным чынам не пераламаць, то вобласць можа апынуцца ў вельмі цяжкай сітуацыі з лячэннем хворых.

**Уладзімір ШЫК.**

## З узнагародай!

За шматгадовую добрасумленную службу ў органах унутраных спраў, вялікі ўклад у падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў ордэнам Пашаны ўзнагароджаны першы намеснік начальніка Магілёўскай школы міліцыі МУС палкоўнік міліцыі **Валянцін Вераценнікаў**, медалём "За працоўныя заслугі" — начальнік цыкла агульнаправавых дысцыплін гэтай жа школы палкоўнік міліцыі **Міхаіл Верамеенка**.

**БелТА.**

## Збор "капеек" для пенсіянераў

Не ад добрага жыцця прафсаюзы Мінскага падшыпнікавага завода пачалі збіраць "капейкі" для пенсіянераў. Тут прафсаюзнай арганізацыі пенсіянераў адміністрацыя кожны квартал пералічвае сродкі, якія затым накіроўваюцца на аказанне тэрміновай дапамогі. 80 мінімальных зарплат налічваецца кожны год для аказання разавай дапамогі і наведвання хворых. Кожны месяц пяць ветэранаў накіроўваюцца ў заводскі санаторый-прафілакторый, а ў маі і верасні з іх ліку фарміруюцца дзве группы па 30—35 чалавек для аздараўлення. Усё гэта робіцца, каб хоць неяк падтрымаць бедных пенсіянераў, якія не могуць звесці канцы з канцамі.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Будзьце асцярожнымі з сонцам!

З пачатку чэрвеня, паводле назіранняў спецыялістаў Нацыянальнага навукова-даследчага цэнтра маніторынгу азанасферы, у атмасферы назіраецца марудпае, але няўхільнае зніжэнне агульнага ўтрымання азону. Гэта зусім натуральна ў такую пару года. Падобная з'ява звычайна назіраецца да глыбокай восені. І нягледзячы на тое, што паказчыкі агульнага ўтрымання азону над тэрыторыяй рэспублікі пакуль яшчэ нават некалькі перавышаюць сярэднекліматычную норму, з сонцам ужо трэба быць больш асцярожным.

Справа ў тым, што азонавы слой у летнія месяцы слаба затрымлівае шкоднае для ўсяго жывога кароткахвалевае сонечнае ультрафіялетавае выпраменьванне. Тлумачыцца гэта становішчам Сонца, якое летам максімальна высока падымаецца над Зямлёй. Найбольшай інтэнсіўнасці ля паверхні Зямлі гэта выпраменьванне дасягае ў паўдзённы час. Таму спецыялісты рэкамендуюць захоўваць меры перасцярогі ад яго ўздзеяння на скуру і органы зроку. Небяспечным з'яўляецца не толькі прамое, але і рассеянае ультрафіялетавае выпраменьванне. Яны прыкладна аднолькавыя па інтэнсіўнасці.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Гучная справа

## Спачатку Пятру Гушчу "шылі" адну справу, цяпер прад'явілі іншае абвінавачванне

*Больш за тры месяцы знаходзіцца пад следствам Пётр Гушча — епіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай (народнай) царквы.*

Святара затрымалі 6 сакавіка гэтага года. Затрымалі не на месцы нейкага злачынства. І наогул нейкае дзіўнае затрыманне. Спачатку Гушчу абвінавачвалі ў тым, што быццам на працягу паўгадзіны ён займаўся... ананізмам у дзіцячым садку. Пра "непрыстойныя" паводзіны святара паведаміла нейкая жанчына, якая, калі ёй верыць, з акна сваёй кватэры назірала за тым, што адбывалася. Прычым мужчыну яна бачыла толькі са спіны. Жанчына патэлефанавала "куды патрэбна", і Гушчу затрымалі. У той жа дзень супраць епіскапа Беларускай аўтакефальнай царквы пракуратурай Савецкага раёна горада Мінска была ўзбуджана крымінальная справа па 118 артыкуле Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Аднак даказаць, што Пётр Гушча займаўся распустай у адносінах да непаўналетніх, не атрымалася. І тады святару прад'явілі другое абвінавачванне — па частцы 2 артыкула 201 Крымінальнага кодэкса Беларусі — злоснае хуліганства. Менавіта гэты артыкул і інкрымінуецца сёння Пятру Гушчу.

Не будзем ўмешвацца ў справы следства, але на некаторыя акалічнасці звернем увагу. Епіскап Пётр — асоба вядомая. Апошнім часам ён актыўна выступаў за адраджэнне Беларускай аўтакефальнай царквы і незалежны нацыянальны рух на Беларусі. У свой час Гушча вучыўся ў Адэскай духоўнай семінарыі. У 1995 годзе ён быў асвечаны ў сан святара Беларускай аўтакефальнай царквы архіепіскапам Сусветнага амерыканскага патрыярхату Юрыем Рыжым, у 1997 годзе — рукапакладзены ў сан епіскапа двума архіепіскапамі з Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі.

Беларуская аўтакефальная царква не падпарадкоўваецца Беларускай праваслаўнай царкве Маскоўскага патрыярхату. Айцец Леанід, святар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, лічыць, што гэты факт і стаў галоўнай прычынай затрымання Пятра Гушчы.

— Справа ў тым,— адзначыў айцец Леанід, — што аўтакефальную царкву на Беларусі да гэтага часу не зарэгістравалі ўлады. Дзейнасць аўтакефальнай царквы не прыйшлася "ко двору" Беларускаму экзархату. Усім вядома, што беларуская праваслаўная царква на чале з патрыяршым экзархам усяе Беларусі Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам не праводзіць поўных набажэнстваў на беларускай мове, моліцца на незразумелай вернікам царкоўнаславянскай (старабалгарскай) мове за Расію, у той час, як у Беларускай аўтакефальной царкве ўсе службы вядуцца на роднай мове. Ёсць разыходжанні і па многіх іншых пытаннях.

Пётр Гушча быў самым актыўным ініцыятарам стварэння аўтакефальнай царквы на Беларусі. Бясспрэчна, высакародная мэта ўладыкі Пятра і яго дзейнасць на гэтай ніве мелі поспех. Пачалася аднаўляцца духоўнасць, з'явіліся прыходы ў Строчычах і Сёмкавым Гарадку пад Мінскам, у Слоніме і Лідзе. Мне здаецца, што калі б Аўтакефальная царква падначальвалася Філарэту, з Пятром Гушчам нічога б не здарылася.

Зрэшты, аднойчы Гушча ўжо быў асуджаны. У 70-я гады яго судзілі як быццам за крадзёж маёмасці. Па словах яго жонкі, святар так і не прызнаў сваёй віны. У 1982 годзе Гушчу абвінавачвалі ў згвалтаванні жанчын. Суд палічыў, што Гушча быў у стане поўнай адсутнасці памяці (невменяемым), і на шэсць гадоў яго "заключылі" ў псіхіятрычную клініку КДБ у Магілёве. "У той час Пётр трапіў у спіс вязняў сумлення, — расказвае яго жонка. — Ён і сёння мае статус палітычнага бежанца, але не жадае пакідаць радзімы, хоча жыць і працаваць у незалежнай Беларусі".

Прыкметна тое, што абараняць Гушчу на судзе да нядаўняга часу не згаджаўся ні адзін адвакат. Толькі 25 мая з яго справай пазнаёміўся Міхаіл Воўчак. Сёння, як паведаміў адвакат, расследаванне скончана, справа перададзена ў суд. І напэўна, у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня пачнецца судовы працэс.

Днямі рэдакцыя атрымала ліст ад Пятра Гушчы. Сёння мы друкуем яго на старонках газеты.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Ліст з-за кратаў

## Мір і добраславенне Божае Вам, дарагія ў Хрысце Ісусе браты і сёстры — дзеці зямлі беларускай!

*Вось ужо тры месяцы, як я знаходжуся за кратамі сумнавядомай Валадарскай турмы па сфабрыкаванай крымінальнай справе па арт.201 ч.II КК Рэспублікі Беларусь. Для Вас, я лічу, не з'яўляецца сакрэтам тое, што бязбожныя сатанінскія сілы не пакідаюць брудных намераў растаптаць нацыянальны незалежніцкі рух на нашай Радзіме, пастаянна ўдасканальваючы метады барацьбы як з патрыятычнымі арганізацыямі, так і з асобнымі дзеячамі. І гэтыя метады становяцца ўсё болей і болей нахабнымі і цынічнымі. Учора былі Хадыка, Сіўчык, Лабковіч. Сёння за кратамі я, а заўтра ў турме можа апынуцца любы з Вас ці хто-небудзь з Вашых родных ці сяброў. Таму зараз, у гэты складаны палітычны час, мы павінны, як ніколі, імкнуцца да еднасці, каб адзіным фронтам паўстаць супраць тых сіл, якія зневажаюць нашу Айчыну і нашыя нацыянальныя і духоўныя каштоўнасці, якія мы маем у спадчыну ад нашых святых продкаў. Я спадзяюся на тое, што мае абвініцелі, нягледзячы на ўсе іхнія хітрыкі і юрыдычныя выкрутасы, не здолеюць звесці Вас у зман і пераканаць, што я вінаваты ў тым, у чым мяне абвінавачваюць.*

*Шчыра кажучы, я знаходжуся ў вельмі цяжкім псіхалагічным становішчы па прычыне поўнай ізаляцыі, але спадзяюся, што Вы, тыя, хто мяне ведае ўжо шмат гадоў, вераць мне, і гэта надае мне сілы. Цёмныя сілы, паўстаўшыя супраць мяне, ставяць перед сабой мэту праз мяне скампраметаваць ідэю адраджэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Назіраючы за ходам следства, я бачу тое, што, нягледзячы на недасканаласць абвінавачвання, справа супраць мяне будзе даведзена да суда. Мала таго, следчыя спрабуюць павесіць на мяне яшчэ якоенебудзь злачынства, якога я не рабіў, каб ні ў якім разе не выпусціць мяне з турмы. Таксама зацікаўленымі коламі пачата "праца" з мэтай фальсіфікацыі некаторых старонак маёй біяграфіі, што, безумоўна, з'яўляецца верхам цынізму. Карацей кажучы, рыхтуецца шырокамаштабная акцыя па дыскрэдытацыі Беларускай аўтакефальнай царквы.*

*Прашу Вас, дарагія суайчыннікі, не верце нашым непрыяцелям, бо яны на тое і непрыяцелі, каб зганьбіць і знішчыць беларускі нацыянальны рух. Гэта галоўная іх мэта.*

*Браты і сёстры, з-за кратаў Валадаркі я заклікаю Вас да нацыянальнай еднасці, бо толькі праз еднасць мы здолеем атрымаць перамогу над ворагам нашай Радзімы і толькі аб'яднанымі сіламі абаронім асабістую і агульнанацыянальную годнасць. Але ў сваёй барацьбе за поўную духоўную і палітычную незалежнасць нашай любай Бацькаўшчыны мы не павінны забывацца на тое, што дасягнуць гэтага мы здолеем толькі тады, калі на нашым баку, супраць нашых ворагаў будзе стаяць Бог. Таму, дарагія суайчыннікі, давайце ўсе разам прасіць нашага Нябеснага Айца, каб Ён зліставаўся над намі і дараваў нам перамогу над сатанінскімі імперскімі сіламі зла.*

*Дабраслаў Госпадзе наш беларускі народ! Амінь.*

**Найменшы з рабоў Божых уладыка Пётр (ГУШЧА).**

"Белые пятна" истории

# Одно из самых гнусных преступлений

На территории Беларуси фашисты создали свыше 260 концлагерей, их филиалов и отделений, в которых погибло более 1 миллиона 400 тысяч человек.

Среди них особое место занимает концлагерь Озаричи. Здесь немцы применили биологическое (бактериологическое) оружие — сыпной тиф — против мирного населения и войск.

На Нюрнбергском процессе осуждены нацистские главари за злодеяния в концлагере Озаричи. Помощник главного обвинителя от СССР Л.И.Смирнов инкриминировал им следующие обвинения:

"Созданием концентрационных лагерей у переднего края обороны и размещением в них сыпнотифозных больных немецкие военные власти пытались преднамеренно распространить эпидемию сыпного тифа среди советского населения и частей Красной Армии, что является грубейшим нарушением законов и обычаев ведения войны, признанных цивилизованными народами".

Под понятием "концлагерь Озаричи" подразумевается не один какой-то объект, а целая система (до 20) концлагерей разного типа: сборные, распределительные, предварительные, основные.

Через всю систему концлагерей фашисты прогнали свыше 120 тысяч человек мирного населения, в основном нетрудоспособного — женщин, детей, стариков Гомельской, Полесской, Могилевской, Барановичской областей Беларуси и частично граждан Орловской, Тульской, Брянской, Смоленской областей России, которых гнали в своем тылу, используя как рабсилу для сооружения полевых укреплений, дорог, мостов и пр.

Примерно 70 тысяч человек остались лежать в предварительных концлагерях. К этому числу надо добавить жертвы среди бойцов и командиров 65-й армии, полки и дивизии которой освободили концлагеря и приняли на себя удар этой страшной болезни. П.И.Батов, командующий 65-й армией, в своей книге "В походах и боях" пишет:

"На правом фланге противник не предпринимал больше активных действий. Но здесь свирепствовал другой враг — сыпной тиф. Эпидемия вспыхнула в дивизиях 19-го корпуса.

Это было одно из самых гнусных преступлений немецко-фашистской военщины.

...Все загнанные в лагеря близ переднего края люди были заражены сыпным тифом.

Такого нельзя ни простить, ни забыть".

Чтобы как можно больше истребить белорусских людей, фашисты размещали концлагеря в лесисто-болотистой местности и в чистом поле. Условия в концлагерях были самые жуткие: зима, мороз, снег, под ногами болотная грязь, никаких укрытий, холод, голод, болезни, а костры жечь нельзя — все это способствовало высокой смертности среди обреченных в каждом концлагере. Похоронные команды не успевали собирать трупы и увозить с территории. А в концлагере Дерть умершие лежали в грязи рядом с больными узниками. Только в центральном концлагере, что у местечка Озаричи, умерло примерно 10 тысяч человек, в Дерти — более 8 тысяч человек.

18—19 марта 1944 года все концлагеря на переднем крае немецкой обороны были освобождены воинами 19-го корпуса 65-й армии.

Бойцы и командиры, закаленные в боях, увидели страшные картины страданий народа. Территория каждого концлагеря была усеяна трупами детей, женщин, стариков.

Вот что вспоминает подполковник в отставке, ветеран 65-й армии, принимавший участие в освобождении концлагерей, Фёдор Зверев:

"Войну прошел, видел много страданий, но такого злодеяния фашистов не видел. На всю жизнь остались в памяти страшные картины страданий людей в концлагере Озаричи".

После освобождения потоки больных, изможденных людей хлынули в тыл 65-й армии, где были организованы медосмотры, мытье людей, прожарка одежды, кишащей вшами. Тысячи из них были помещены в госпитали. Более 50 госпиталей задействовали для борьбы с тифом. Но многим бывшим узникам, обессиленным голодом, холодом, болезнями, уже ничто и никто не мог помочь.

Эпидемия сыпного тифа затронула и части 65-й армии, а также местное население. Например, в деревне Старые Новосёлки Калинковичского района в братской могиле похоронено 232 воина, большая часть которых, по утверждению местных жителей, умерла от тифа. В этой же деревне имеется и массовое захоронение узников концлагеря Озаричи, у кладбищенской ограды, по которому с ведома местных властей прошла дорога местного значения. Не преступление ли это перед памятью сотен женщин, детей, стариков, похороненных в этой общей могиле?

В октябре прошлого года Министерство культуры Беларуси организовало экспедицию по поиску мест массовых захоронений узников концлагеря Озаричи. Я, бывший узник концлагеря Озаричи, увидел страшные картины безразличия, халатного отношения местных властей Калинковичского и Октябрьского районов к памяти сотен, тысяч советских граждан — бывших узников концлагеря Озаричи.

Вблизи деревень Лампеки, Старые и Новые Новосёлки, Семёновичи, Холодники Калинковичского района на месте предварительного концлагеря у деревни Микуль-Городок Октябрьского района массовые захоронения заросли мелколесьем, травой, бурьяном, и никаких признаков о том, что в каждом из них похоронены сотни, а то и тысячи людей — узников концлагеря Озаричи. На месте бывшего концлагеря у деревни Семёновичи, например, похоронено примерно 2500 человек, у деревни Холма — примерно 4 тысячи, а у деревни Медведь — не менее 9 тысяч человек.

Многие захоронения уже трудно отыскать, ибо трудно найти свидетелей. Всё же 54 года — это срок немалый. Память о забытых захоронениях сохранилась у местных старожилов. Они охотно показывают их места. Но этих старожилов уже мало остается. А местным властям нет дела до того, кто и где похоронен. В Холодниках, например, имеется три захоронения, и все они забыты.

Ни школы, ни работники местных советов не интересуются историей своего края, им безразличны захоронения жертв фашизма.

Мы, бывшие дети войны, бывшие малолетние узники концлагеря Озаричи, стали пенсионерами, и с каждым годом наши ряды тают. Только мы можем сделать еще кое-что для увековечения памяти наших матерей, братьев, сестер, бабушек и дедушек, покоящихся в забытых массовых захоронениях. И это надо делать теперь, ибо завтра будет поздно.

Иначе память о жертвах фашизма умрет навсегда.

**На снимках:** *дорога в концлагерь.*

**Григорий ГОЛОВАЧЕНКО, бывший узник концлагеря Озаричи, поисковик.**

## Камунальнікі сталі больш мабільнымі

Беларускія камунальнікі атрымалі на ўзбраенне некалькі новых узораў спецыяльнай тэхнікі. У Мінск з Германіі пастаўлена мабільная ўстаноўка для аператыўнай дыягностыкі стану водазаборных шчылін. Прынцып яе работы — выкарыстанне тэлекамеры, пры дапамозе якой аператар можа літаральна сваімі вачамі бачыць пашкоджанні шчыліны на шматметровай глыбіні. Устаноўка змантаравана на базе аўтамабіля "Мерседэс" і каштуе 125 тысяч долараў.

Кошт другой навінкі ніжэйшы. Перасоўная кацельня вытворчасці гомельскага завода "Камунальнік" на шасі аўтацягача "МАЗ" будзе каштаваць гарадскім службам 2,5 мільярда рублёў. Кацельня прызначана для цеплазабеспячэння жылых будынкаў у аварыйных сітуацыях. Прамысловыя выпрабаванні, якія адбыліся на мінулым тыдні, паказалі, што яе магутнасці дастаткова для ацяплення 500 стандартных кватэр.

Плануецца, што мабільныя ўстаноўкі дыягностыкі водазабораў і перасоўныя аварыйныя кацельні з'явяцца ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БелТА.**

Слышали?

## Почему жителям Пережира не до жиру? Снова яблоньки считают. Поштучно. Как при Хрущеве...

Для жителей окрестных деревень, что раскинулись по обе стороны железнодорожной станции Седча (Пуховичское направление), это "нововведение" Пережирского сельского совета — представить данные о фруктовых деревьях, ягодниках — было как гром среди ясного неба.

Многим припомнились не столь далекие времена, когда фининспекторы пересчитывали все до последнего деревца, клубничные кустики, за что потом взыскивали налоги. Сейчас, правда, налоговая инспекция отпочковалась от финансовых структур и получила самостоятельный статус. Но крестьянину, как и горожанину-дачнику, от этого не легче.

В Пережире, например, что в десяти минутах ходьбы от остановки электропоезда (ст.Седча), сельчанам объяснили, что данные, мол, нужны для более точного изучения доходов каждой семьи. И это якобы не противоречит известному президентскому декрету о декларациях.

Кстати, глава государства не раз принародно заявлял, что надо все лучшее, что прошло проверку временем, без сомнений внедрять сегодня. Возможно, в Пережирском сельсовете и посчитали, что лучший способ изымать налоги — это знать доходы сограждан, в том числе и потенциальную прибыль, которую может приносить приусадебный участок или огород под окнами.

Но не станет ли это "нововведение" заразительным примером для региона, области, республики? Таких ли демократических перемен мы ожидали?

**Виктор СВИРКО.**

**P.S.** *Прояснить ситуацию не смогли и в Главной налоговой инспекции Республики Беларусь, сославшись на отсутствие какого-либо ведомственного документа (инструкции, распоряжения и т.д.) на этот счет. И все же маловероятно, чтобы это была просто местная инициатива.*

